МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№8 (124)
жнівень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### АМБАСАДАРА ШВЕЦЫІ ВЫСЛАЛІ З БЕЛАРУСІ

Амбасадар Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан быў высланы з Беларусі 3 жніўня 2012 года.

*Працяг на стар. 2*

### БЕЛАРУСКІ СПЕЎ І ТАНЦЫ Ў СЭРЦЫ АМЕРЫКІ

4 жніўня беларуска-амерыканская грамада ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, адсвяткавала свой гадавы фестываль.

*Працяг на стар. 3*

### АДГАЛОСКА НА АРТЫКУЛ “БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ Ў БЕЛАРУСАЎ ГДАНЬСКА”

Водгук спадарыні Лены Глагоўскай на допіс Алеся Адамковіча.

*Працяг на стар. 4*

### ЛІПЕНЬСКІЯ БУДНІ Ў ТБК ЛІТВЫ

Чарговая імпрэза 28 ліпеня была прысвечаная 130-м угодкам ад дня народзінаў Янкі Купалы і 15-й гадавіне ад дня смерці Лявона Луцкевіча.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

## ГУТАРКА З ВОЛЬГАЙ ІПАТАВАЙ



*Вольга Іпатава. Фота: Радыё Свабода*

**23 жніўня, падчас наведвання Радзімы, на сядзібу “Бацькаўшчыны” завітала Вольга Іпатава, сябра Вялікай Рады Згуртавання, пісьменніца, даследчыца, актыўная грамадская дзяячка, якая жыве і працуе ў Канадзе. Неўзабаве спадарыня Вольга вяртаецца ў гэтую краіну, дзе існуе адна з самых даўніх і актыўных беларускіх дыяспар у свеце. Мы папрасілі яе раскаазаць пра сваю дзейнасць у Канадзе і падзяліцца творчымі планамі.**

*– Спадарыня Вольга, раскажыце, калі ласка, пра сваю хуткую паездку ў Канаду.*

– З хваляваннем чакаю 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Я ўжо ўдзельнічала ў 28-й такой Сустрэчы, і цяпер спадзяюся ўбачыць многіх з тых вельмі паважаных мною людзей, якія змагаюцца за беларускую духоўнасць, патрыятызм, перш за ўсё Янку Запрудніка і Вітаўта Кіпеля. Беларуская эміграцыя і сёння робіць вялікую працу па захаванні беларускасці ў свеце, гэта парусы, якія трымаюць беларускасць, не даюць загубіць яе ў самой Беларусі.

Я буду браць удзел у сёлетняй Сустрэчы як пісьменніца, буду казаць уступнае слова. Адна з маіх мэтаў – папулярызацыя беларускіх аўтараў замежжа, пра гэта я таксама буду гаварыць.

*– Ці доўга Вы будзеце заставацца ў Канадзе? Якія творчыя планы на гэты перыяд?*

– Там я мяркую быць каля двух гадоў. Спадзяюся напісаць гісторыю сям’і Орса. Яны выкладалі ў беларускай Навагрудскай гімназіі, гэты горад мне блізкі. Пра гэтую сям’ю мала яшчэ напісана, і я хачу сабраць пра іх як мага больш таго, што ўжо назбірана ў эміграцыі. Невядома, якую форму атрымае гісторыя сям’і Орса: гэта можа выліцца ў кнігу або брашуру, а можа, гэта будзе артыкул.

Я шаную тое, што робяць Уладзімір Арлоў і “Радыё Свабода”, лічу кнігу “Імёны Свабоды” вельмі важнай. У мяне таксама выходзіў зборнік аповедаў, прысвечаных славутым беларускім людзям, – “Свабода да апошняга дыхання”. І цяпер я таксама планую напісаць успаміны пра людзей, з якімі мяне звязала жыццё, пра якіх у мяне ўжо ёсць пэўныя архівы. Гэта Зоська Верас, Янка Шутовіч, Галіна Войцік, Я. Багдановіч, Кастусь Акула, Зора Кіпель, Ніна Абрамчык (Ляўковіч) і іншыя выдатныя людзі замежжа. Некаторыя жылі ў Вільні – калісьці на тэрыторыі Беларусі, а цяпер у суседняй краіне.

*– Вы вядомыя сваёй гістарычнай прозай. Сярод герояў Вашых кніг – Ефрасіння Полацкая, Давыд Гарадзенскі, князь Альгерд. Ці працягваеце Вы пісаць у гэтым кірунку?*

– Не так даўно я знайшла ўрывак, які рыхтавала для аднаго з папярэдніх раманаў, але які не выкарыстала ў ім. На яго аснове хачу напісаць новы раман. Гэта будзе эпоха Ягайлы і Соф’і Гальшанскай. Пра яе шмат пісалі (напрыклад, Анатоль Бутэвіч апісваў яе ў кнізе “Каралева не здраджвала каралю”). Але мяне цікавіць дзейнасць Соф’і Гальшанскай як грамадскай дзяячкі. Яна чыста беларуская каралева. Дарэчы, з Ягайлам яны вянчаліся ў родным мне Навагрудку. Год, які я правяла без гістарычнай тэмы ў творчасці, здаецца страчаным для жыцця, хоць гэта не так, і ніводзін дзень не сыходзіць без плёну. І ўсё ж гістарычная проза – асноўнае для мяне. Самае галоўнае – сабраць нектар з кветак, якія некалі раслі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага – адной з самых вялікіх краін у свеце, спадчыну якой мы толькі пачынаем збіраць.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# АМБАСАДАРА ШВЕЦЫІ ВЫСЛАЛІ З БЕЛАРУСІ

Амбасадар Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан быў высланы з нашай краіны 3 жніўня 2012 года. Як паведаміў шведскі міністр замежных справаў Карл Більт радыё "Швецыя", супраць Стэфана Эрыксана былі выстаўленыя абвінавачанні датычна ягоных "сувязяў з беларускай апазіцыяй". Палітык лічыць гэтыя абвінавачанні бессэнсоўнымі ды звязвае высыланне Эрыксана з ягоным падтрыманнем правоў чалавека ў Беларусі.

У сваю чаргу, прэсавы сакратар беларускага МЗС Андрэй Савіных заяўляе, што Эрыксан сам вінаваты ў сваім ад'ездзе. Паводле Савіных, Беларусь не высылае шведскага амбасадара, а проста не працягвае яму акрэдытацыі.

"Спадар Стэфан Эрыксан працаваў у Мінску каля 7 гадоў. Гэта доўгі тэрмін. За гэты час уся ягоная дзейнасць была скіраваная не на ўмацаванне беларуска-шведскіх адносінаў, а на іх разбурэнне", – гаворыцца ў заяве МЗС.

Стэфан Эрыксан працаваў у Беларусі з 2005 года. У 2008 заняў пасаду амбасадара Швецыі ў Беларусі. Эрыксан дасканала ведае беларускую мову і актыўна падтрымлівае беларускую культуру. "Для мяне вывучыць беларускую мову было натуральнай патрэбай, ва ўсіх краінах, дзе працаваў, вывучаў мовы", — казаў сп. Эрыксан, які не толькі размаўляў паўсюль публічна па-беларуску, але і перакладаў з нашай мовы на шведскую творы Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова. Пры ягонай падтрымцы выйшлі класічныя кнігі шведскай літаратуры на нашай мове. Некалькі разоў Стэфана Эрыксана запрашалі на дзяржаўнае тэлебачанне, дзе вядучыя гаварылі па-руску, а Эрыксан — па-беларуску. Напэўна, праз яго шмат хто з нашых суайчыннікаў задумаўся: калі швед можа, то чаму мы — не?

Спадарар Экрыксан спрыяў культурнаму абмену паміж Беларуссю і Швецыяй, запрашаў шведскіх пісьменнікаў у Беларусь, падтрымліваў пераклад іх твораў і арганізоўваў канцэрты беларускіх гуртоў у Швецыі. Ніколі не заставаўся ён абыякавым да грамадска-палітычных праблемаў у нашай краіне, хадзіў на суды і на мітынгі, усяляк падтрымліваў тых, хто цярпеў ад рэжыму ў змаганні за свае правы.

8 жніўня МЗС Беларусі аб'явіў аб адкліканні ўсіх супрацоўнікаў беларускай амбасады ў Стакгольме. Шведскаму боку было рэкамендавала прыняць аналагічныя меры і адклікаць усіх сваіх дыпламатаў з Мінска да 30 жніўня. Амбасада Швецыі ў Беларусі прыпыніла працу 20 жніўня. Цяпер інтарэсы Швецыі ў візавых пытаннях у Беларусі прадстаўляе амбасада Эстоніі.

*Паводле belsat.eu, nn.by*

# У ВІЛЬНІ ПАТРАБАВАЛІ СВАБОДУ БЯЛЯЦКАМУ

6 жніўня літоўскія і беларускія грамадскія актывісты пікетавалі амбасаду Беларусі ў Літве.

Удзельнікі акцыі перадалі амбасадару калектыўны зварот з подпісамі больш чым 200 чалавек, якім яны патрабуюць безумоўна і неадкладна вызваліць Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных вязняў у Беларусі.

"Мы патрабуем ад уладаў Беларусі спыніць ціск і пераслед прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці краіны і праваабаронцаў, а таксама прывесці заканадаўства Беларусі ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне абароны правоў чалавека", — напісана ў петыцыі.

Акрамя беларусаў і літоўцаў, подпісы пад петыцыяй пакінулі грамадзяне Вялікабрытаніі, Бельгіі, Паўднёвай Карэі, Швецыі, Партугаліі, ЗША, Пакістана, Італіі, Люксембурга — усяго падпісаліся прадстаўнікі 21 краіны, адзначае праваабарончы цэнтр "Вясна".

4 жніўня споўніўся год з моманту затрымання беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH. Ён быў асуджаны на 4,5 года турмы летась у лістападзе. Яго прызналі вінаватым у нявыплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на яго рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасць.

Краіны ЕС, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.

Заўважым таксама, што напрыканцы жніўня ў варшаўскім метро адкрылася выстава пра Беларусь, дзе асаблівая ўвага надаецца асобе Алеся Бяляцкага. Выстава складаецца з 10 плакатаў на польскай мове і двух – на англійскай, якія асвятляюць розныя бакі беларускага жыцця. Арганізатары экспазіцыі – шэраг польскіх недзяржаўных і праваабарончых арганізацый.

*Паводле svaboda.org і nn.by*

# СВОЕАСАБЛІВЫ ЯНКА ЮХНАВЕЦ




**Юхнавец Я. Паэзія / Янка Юхнавец; уклад., прадм. і камент. Л. Юрэвіч; пад рэд. Н. Гардзіенкі. — Мінск: Лімарыус, 2012. — 620 с.: іл. — (Галасы Айчыны).**

Летась кнігі ў серыі "Галасы Радзімы" не выходзілі. На тое была важкая прычына: прамоўтар серыі, Аляксандр Фядута, мусіў прайсці, як і многія беларускія літаратары да яго, праз славутую "амерыканку".

Краем вуха я чуў, што сёлета "Лімарыус" рыхтуе да выдання двухтомнік Міхася Стральцова, але якое ж было маё здзіўленне, калі я ўбачыў чарговы том чарговага эмігранта. Том нечаканы. Пяцьсот дзевяноста старонак паэзіі (адной паэзіі) Янкі Юхнаўца (1921–2004). Па-за томам засталіся проза і эпісталярый пісьменніка.

Прызнаюся: Янка Юхнавец — цяжкі для майго разумення паэт. Квантэмы Алеся Разанава і ягоныя паэмы я зразумеў з першага прачытання. (Зрэшты, паэмы зразумелі з першага чытання і ў "інстанцыях". Памятаю, з якою інтанацыяй казаў пра гэта загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч: "Нас не праведёшь!") Чытаючы том Янкі Юхнаўца, я думаў: вось дзе Алесю Разанаву спажытак для роздуму.

Ужо не раз названы тут Антон Адамовіч, рэцэнзуючы першую кніжку паэта "Шорах моўкнасці" (1955), адзначаў глыбіннасць таленту Янкі Юхнаўца. Мне думаецца, што кнігу паэзіі Янкі Юхнаўца трэба было абавязкова выдаць хоць бы дзеля таго, каб паказаць аматарам беларускай паэзіі яшчэ адну яе грань, яшчэ аднаго самабытнага творцу.

Тое, што ў томе, падрыхтаваным Лявонам Юрэвічам і адрэдагаваным Наталляй Гардзіенкай, сабраныя адны паэтычныя творы Янкі Юхнаўца, падказвае мне, што на чарзе — том прозы і эпісталярыю пісьменніка. Проза гэтая, мяркуючы па тым, што публікавалася на Бацькаўшчыне, таксама своеасаблівая.

*Паводле Анатоля Сідарэвіча, nn.by*

# З НАДЗЕЯЙ НА НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ

Гэтае лета было вельмі насычаным для Новасібірскага цэнтра беларускай культуры. Міжнародны фестываль нацыянальных культур, раённыя святы, якія праводзяцца філіяламі Цэнтра ў вобласці, Дні славянскай культуры – далёка не ўсе акцыі, у якіх удзельнічалі творчыя калектывы НЦБК.

А яшчэ – паездкі ў суседнія рэгіёны і за мяжу. Аб гэтых памятных падзеях распавядаюць дырэктар Цэнтра Кабанава Ніна Васільеўна і метадыст, салістка Цэнтра, лаўрэат шматлікіх прэстыжных аглядаў-конкурсаў Анастасія Трубянкова.

У чэрвені мы ўпершыню былі запрошаныя на Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, які праходзіў у Гродна. У гэтыя дні там можна было пазнаёміцца з нацыянальнымі традыцыямі, пакаштаваць стравы нацыянальнай кухні і пачуць музыку прадстаўнікоў 34 народаў, якія пражываюць у Беларусі.

У мерапрыемствах узялі ўдзел каля 2 тыс. гасцей. Гэта артысты, народныя майстры, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, беларускай дыяспары за мяжой, дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў. Асноўная ўвага іх была скіраваная да нацыянальных падворкаў, размешчаных на 25 пляцоўках у межах гістарычнага цэнтра горада, дзе можна было азнаёміцца з культурнай спадчынай, песнямі, танцамі, касцюмамі, кухняй народаў свету.

Першая наша канцэртная пляцоўка была якраз на беларускім падворку.

Уражанні ад паездкі засталіся самыя прыемныя, нягледзячы на пахмурнае надвор'е. Цёплы сяброўскі прыём, прыгажосць горада, насычанасць праграмы – усё гэта спрыяла мноству яркіх і незабыўных эмоцый.

Па вяртанні з Беларусі, літаральна праз два дні, нас чакала яшчэ адна паездка – у Казахстан, горад Паўладар. Нас запрасілі на свята 910-годдзя Святой заступніцы Белай Русі Вялебнай ігуменні Еўфрасінні Полацкай. Мы выступалі на канцэртных пляцоўках горада, удзельнічалі ў пасяджэнні круглага стала, пабывалі на хрэсным ходзе ў дзень нараджэння Святой заступніцы Еўфрасінні Полацкай. Асаблівую значнасць гэтага мерапрыемства надало з'яўленне ў горадзе іконы Еўфрасінні з часцінкамі яе мошчаў.

Кожная паездка ў Казахстан, а іх было нямала, запамінаецца надоўга, дзякуючы гасціннасці этнакультурнага аб'яднання "Беларусь".

Запомнілася і паездка ў Томск на пяты, юбілейны, фестываль "Радзіма мая – Беларусь!" Томская грамадская арганізацыя беларусаў – адна з многіх у сібірскім рэгіёне, з якой НЦБК пастаянна падтрымлівае творчыя сувязі, абменьваецца ўзаемнымі сяброўскімі візітамі.

У яркіх насычаных праграмах "Беларускія напевы" і "Разам" сумесна з нашым ансамблем "Сібірскія ўзоры" выступалі і госці з Алтая, Іркуцка і іншых мясцінаў. Асабліва запомнілася абрадавае тэатралізаванае свята Купалле, у пачатку якога гасцей сустракалі з хлебам-мёдам, прамаўлялі здравіцу ў гонар гасцей, а затым усе закруціліся ў шматколерным карагодзе!

Цудоўна, што ў наш час ёсць такія фестывалі, якія спрыяюць захаванню нацыянальнай самабытнасці і разам з тым узаемаразуменню і ўзаемнаму ўзбагачэнню культур.

*Паводле прэс-службы НЦБК*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў верасні: Ніла Гілевіча (Беларусь), Вольгу Стужынскую (Бельгія), Вячаслава Целеша (Латвія) і Георгія Казака (Расія).

Зычым выдатнага здароўя, даўгалецця, радасці, поспеху ва ўсім, натхнення і дабрабыту!



У верасні наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі: 11 верасня – Алесь Пашкевіч (Беларусь), 20 верасня – Аляксей Каўка (Расія).

Шчыра віншуем шаноўных юбіляраў са святам, зычым моцнага здароўя, плёну ў працы, сонечнага настрою і добрых навінаў!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# БЕЛАРУСКІ СПЕЎ І ТАНЦЫ Ў СЭРЦЫ АМЕРЫКІ

4 жніўня беларуска-амерыканская грамада ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, адсвяткавала свой гадавы фестываль. Падзея адбылася ў невялікай паркавай зоне Беларуска-Амерыканскага цэнтра, што пры царкве Св. Ефрасінні Полацкай. Асаблівасцю сёлетняга фестывалю была прысутнасць дванаццаці гасцей з Беласточчыны, якія прывезлі з сабою п'есу "Цацачная крама" аўтарства Леаніда Дранько-Майсюка на музыку Ганны Бабік.

Пасля паказу п'есы на траўніку, што паміж будынкам Цэнтра і царквой, адбыліся танцы і спевы, у якіх выступілі і беластоцкія госці — група старэйшых вучняў з настаўніцамі-апякункамі Барбарай Пякарскай і Алінай Ваўранюк. На наступны дзень госці наведалі царкву Жыровіцкай Божай Маці ў суседнім з Саўт-Рыверам горадзе Гайленд-Парк, дзе таксама выступілі з паказам п'есы ды інфармацыяй пра беларускую адукацыйна-культурную дзейнасць на Беласточчыне.

Саўт-Рывер — горад у цэнтральнай частцы штата Нью-Джэрсі. Беларусы пачалі перасяляцца сюды ў канцы XIX ст., гнаныя эканамічным крызісам з Расійскай імперыі. У пачатку XX ст. славянскія выхадцы з Беларусі складалі ў Саўт-Рыверы да трацiны насельніцтва, засяліўшы пераважна паўднёвую частку горада. Менавіта эмігранты з ваколіц Маладзечна і Вялейкі пабудавалі ў Саўт-Рыверы царкву Святых Пятра і Паўла, тады ў юрысдыкцыі РПЦ.

Беларусізаваўся Саўт-Рывер у пачатку 1950-х з перасяленнем у яго некалькіх дзясяткаў беларускіх эмігрантаў з лагераў для перамешчаных асобаў у Нямеччыне. Беларусы заснавалі прыход Св. Ефрасінні Полацкай у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату, збудавалі царкву, Беларуска-амерыканскі грамадскі цэнтр. У Саўт-Рыверы дзейнічалі і дзейнічаюць цяпер некалькі грамадскіх і сацыяльных арганізацый, выдаваліся газеты і часопісы. Часопіс "Беларуская думка" — не блытаць з гігінскім! — выдаецца і да сёння. У рысе гораду знаходзяцца асобныя беларускія могілкі.

Актыўнае беларускае жыццё працягваецца ў гарадку. Так, 25 сакавіка 2012 г. у Саўт-Рыверы адзначылі Дзень Волі ўзняццем нацыянальнага сцяга каля будынка гарадскога музея.

У верасні 2010 г. у Саўт-Рыверы прайшла традыцыйная сустрэча беларусаў ЗША і Канады.

*Паводле nn.by*

# АДГАЛОСКА НА АРТЫКУЛ "БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ Ў БЕЛАРУСАЎ ГДАНЬСКА"

З цікавасцю прачытала я справаздачу Алеся Адамковіча з пабыўкі віленчукоў у нас – у Гданьску. Зразумела, што госці вырашылі падзяліцца сваімі ўражаннямі на старонках бюлетэня ЗБС "Бацькаўшчына". Мяне, якая займалася гасцямі, уразілі некаторыя недакладнасці, якія паявіліся ў справаздачы. Паколькі яны мяняюць фактычны вобраз, па праве гаспадара сустрэчы я вырашыла крыху ўвесці правак. Па-першае, выпадае прыпомніць час пабыўкі нашых гасцей, якія даехалі ў Гданьск у суботу 30 чэрвеня і ад'ехалі 2 ліпеня раніцай. Пасялілі мы гасцей у Доме паяднання і спатканняў імя Максіміліяна Кольбэ не выпадкова, а таму, што гэта месца вельмі гасціннае для беларусаў. У Доме праводзіцца шмат мерапрыемстваў, на якія запрашаюцца прадстаўнікі беларускіх пазаўрадавых арганізацыяў. Хачу намякнуць, што, не маючы свайго памяшкання, і мы (Беларускае культурнае таварыства "Хатка") шмат разоў арганізоўвалі там свае мерапрыемствы, напрыклад, святкаванне угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, агляды беларускіх фільмаў, пераначоўвалі і кармілі сваіх гасцей. Гэтае месца, хочаш не хочаш, у кожнага беларуса павінна асацыявацца са спрыяннем усякім добрым справам.

Але вяртаючыся да гданьска-віленскіх беларускіх сувязяў, варта прыпомніць, што ў 1997 г. у гэтым Доме мы ладзілі менавіта супольна з Віленскай беларускай школай імя Францыска Скарыны і з ніўскай "Зоркай" праект для беларускай школьнай моладзі з Вільні і Беласточчыны, прысвечаны шматкультурнасці Гданьска, – на яго тысячагоддзе. З Вільні прыехалі тады дзеткі са сваімі апякунамі-настаўнікамі – з Сержуком Вітушкам, Хрысцінай Балаховіч і Людвікай Кардзіс-Вітушкавай. На працягу тыдня вывучалі Гданьск і ваколіцы. Памятаю водгукі вучняў у віленскай газеце "Рунь" і ў беластоцкай "Ніве".

Успамінаю пра тую сустрэчу, бо была яна вынікам супрацоўніцтва Беларускага культурнага таварыства "Хатка" з віленскімі беларусамі, якое, дарэчы, пачалося ў 1988 г. падчас з'езду БНФ у Вільні. І яго ініцыятарам быў сп. Мікола Гайдук, які, даведаўшыся, што Людвіка Кардзіс збіраецца ў Гданьск, параіў ёй сустрэцца з Міхасём Куптэлем і пакінуў ёй кантакт з ім. Вось так ад з'езду БНФ, на якім нікога з Гданьска ў Вільні не было, пачалося нашае знаёмства з беларусамі Вільні. Другой асобай, якая нас знаёміла з Вільняй у 1990 г., быў "паходнявец" Мікола Таранда з Гародні. У 1990 г. ён запрасіў 8 гданьскіх Беларусаў на святкаванне 25 сакавіка ў Гародню. Тады быў такі ўздым беларускага адраджэння, што пасля аднадзённай пабыўкі там наступнага дня разам з грамадой гарадзенцаў мы паехалі святкаваць угодкі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Вільню. Усімі намі займалася там Людвіка Кардзіс, якая паказвала беларускую Вільню, а мы хадзілі па ёй з узнятымі бел-чырвона-белымі сцягамі. Тады мы таксама ўдзельнічалі ў акадэміі ў Палацы Прафсаюзаў, дзе асабліва запомнілася выступленне Вольгі Цярэшчанкі з Гомеля і яе песня на словы Алеся Барскага "Айчына-радзіма…". Усіх нас уражвала тадышняе віленскае беларускае асяроддзе – ад маладога пакалення да старога – ветэранаў беларускага руху.

Як гром з яснага неба ўспрынялі мы віленскія падзеі ў студзені 1991 г., калі савецкія войскі занялі тэлевізійную вежу і парламент. У Польшчы тады было можна бясплатна пасылаць у Вільню пачкі з харчамі да 10 кілаграмаў адна. Спантанна мы вырашылі пасылаць такія пачкі нашым суродзічам. Сабраўшы грошы не толькі ў нашым таварыстве, але і ў царкве, мы накуплялі розных прадуктаў (алей, мука, цукеркі, шакалад), пасартавалі ў пачкі і адправілі поштаю ў Вільню. За нашую дабрачынную акцыю мы атрымалі прыгожую мастацкую падзяку аўтарства Алега Аблажэя. Пасля Таварыства беларускай культуры ў Вільні запрасіла нас з нагоды перанясення сімвалічнай магілы Івана Луцкевіча з Закапанага на Росы.

Асаблівай праявай супрацоўніцтва было ўсталяванне помніка на магіле Альбіна Стэповіча ў снежні 1994 г., на якое ў Вільню прыехала дэлегацыя сям'і Стэповічаў, якая прафінансавала помнік свайго дзядзькі, нашыя харысткі Ірына Гаданьчук і Анна Петкун з дырыжорам Ірынеем Лаўрэшуком, якія выконвалі песні пад музыку Альбіна Стэповіча ў касцёле Св. Мікалая, на могілках і падчас застолля. Жылі мы ў беларускіх дамках пры вуліцы Жыгіманту, а радня Стэповічаў жыла ў спадарыні Міраславы Русак і ў спадара Алега Мінкіна. Была з намі таксама рэдактар "Радыё Гданьск" Анна Сабэцкая, якая пасля зрабіла праграму для радыё і для тэлебачання "Скай Аруня". У мерапрыемстве ўдзельнічала таксама дыпламатычнае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь, старшыня МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, прафесар Адам Мальдзіс.

Угодкі Віленскай Беларускай Гімназіі, ладжаныя ў Вільні, сталі таксама нагодай для паездак. Віленчукі запрашалі на гэтыя мерапрыемствы гданьскіх беларусаў, асабліва Мацея Канапацкага з Сопата, які быў яе выпускніком. Фактычна непарыўная мая сувязь з віленчукамі перарасла ў сяброўства з Людвікай Кардзіс, пазней Вітушкавай, і нам удалося здзейсніць некалькі розных цікавых ініцыятываў. Апрача памянёных, мы арганізавалі 30 красавіка 2004 г. у Музеі тэатра і кіно ў Вільні канферэнцыю, спалучаную з выставай, прысвечаную 60-ым угодкам смерці Францішка Аляхновіча "Драматычны шлях драматурга" з удзелам яго сыноў Юркі і Казюка і праўнучак Эміліі і Ганны. Людвіка і Сяржук Вітушкі арганізавалі гэтае мерапрыемства як грамадскае аб'яднанне "Беларускі музей імя Івана Луцкевіча". Усё роўна яно без нашага даўняга сяброўскага супрацоўніцтва наўрад ці атрымалася б. За апошнія гады мы з Людвікай напісалі даведнік пра беларускія магілы на Росах, які чакае выдання.

Фактычна кантакты беларусаў Гданьска з беларусамі Вільні трываюць непарыўна з 1988 г., таму я ніяк не магу зразумець, якое адраджэнне старых традыцыйных сувязяў Алесь Адамковіч меў на думцы. На жаль, шмат якія сувязі ўжо не адродзяцца, бо многіх людзей ужо няма ў жывых – Лявона Луцкевіча, Галіны Войцік, Аляксея Анішчыка, Тані Дубавец, Сяргея Вітушкі, якіх я адведвала, бываючы ў Вільні. Але шмат хто яшчэ там ёсць, з кім я падтрымліваю сувязі і адведваю ад часу да часу: дачок Язэпа Найдзюка, Рэгіну Ярмалковіч, Хведара Нюньку, Хрысціну Балаховіч, Алега Аблажэя, Алёну Анішчык…

Далей Алесь Адамковіч, пішучы пра Алеся Юзэфовіча, назваў яго заснавальнікам у 1967 г. беларускай арганізацыі ў Гданьску, і сёння, быццам бы па маіх словах, – ён адзіны, хто застаўся з яе ўдзельнікаў. Дзеля праўды трэба гэта выправіць. Наш Алесь Юзэфовіч сапраўды з 1967 г. да сёння з'яўляецца актыўным дзеячам беларускага руху на Узбярэжжы. Але ён быў адным з заснавальнікаў беларускага таварыства, а яго ініцыятарам і арганізатарам у 1967 г. была Ірына Мельнікава. Прадстаўляючы яго на сустрэчы, я сказала, што на ёй – ён адзіны з тых, хто заснаваў таварыства ў 1967 г. Сустрэча ладзілася 30 чэрвеня і не ўсе, у тым ліку заснавальнікі беларускага таварыства з 1967 г., маглі на ёй прысутнічаць – або не маглі па розных жыццёвых абставінах, што я, здаецца, сказала ў адносінах да дзвюх сябровак з

➲

нашага праўлення, тлумачачы іх адсутнасць, падобна як і Ганны Іванюк, адной з заснавальніц і актыўнай дзеячкі беларускага руху ў Гданьску. Пералічаючы нашых дзеячаў, аўтар памылкова падаў прозвішча сямейства Мекінаў (Чэслаў Мекін вучыўся з Адамам Мальдзісам), а нашага Міхася Куптэля назваў "вядомым журналістам "Нівы". Дарэчы, ніколі ён ім не быў – таму лепш было б яго назваць карэспандэнтам "Нівы". Затое пэўны час журналістам "Нівы" (штатным) сярод нашых быў Мацей Канапацкі. Яго бацька быў камандзірам беларускага войска з кастрычніка 1919 г. (не 1918), бо толькі тады яно было паклікана. Мы вельмі ганарымся Мацеем Канапацкім, і стараннем "Нівы" летась выдадзена кніга ягонай беларускай публіцыстыкі "Увесь свет Мацея Канапацкага", асобнікі якой атрымалі ад нас у падарунак віленчукі.

Пішучы пра тапаніміку Трыгарада, Алесь Адамковіч прыпісаў вуліцу Янкі Брыля Гданьску, а яна ж у Гдыні! Разумею, што бачачы ўпершыню Трыгарад цяжка разабрацца, дзе канчаецца адзін горад, дзе пачынаецца другі, але ж раздзяляе іх Сопат, таму немагчыма пераблытаць Гданьск з Гдыняй. А да таго ж, Янка Брыль змагаўся за Гдыню, таму і даслужыўся там свае вуліцы, а не ў Гданьску. Мне асабіста шкада, што Алесь Адамковіч не ўспомніў пра вуліцу Лукі Дзекуця-Малея ў Гданьску, магілу якога (ды не толькі яго) я паказала на гданьскіх гарнізонных могілках на заканчэнні нашай вандроўкі па Трыгарадзе.

Варта тут таксама вярнуцца да адміністрацыйнай міжваеннай адзінкі, якой быў Вольны горад Гданьск пад міжнародным пратэктаратам Лігі Нацыяў. У яго ўваходзіў не толькі Гданьск, але і Сопат, і наваколле Гданьска і Сопата. Каб вобразна ўявіць прастору Вольнага горада Гданьска, дадам, што Гдыня з аднаго боку, а Тчэў з другога боку былі польскімі гарадамі, а паміж імі быў Вольны горад Гданьск.

Пішучы пра камень Янкі Купалы ў Гданьску, аўтар звярнуў увагу, што "паставіць яго дапамагла беларуская амбасада". Адкуль такое сцвярджэнне? Было гэта зусім не так. Дзеля гістарычнай праўды напомню гэты факт. У 2004 г. Беларускае культурнае таварыства "Хатка" ў Гданьску супольна з Генеральным Консулам Рэспублікі Беларусь у Гданьску Міхалам Аляксейчыкам звярнуліся да прэзідэнта горада Гданьска з прапановай устанавіць памятны знак на вуліцы Янкі Купалы, на што ўлады згадзіліся. Ініцыятыве ўвесь час перашкаджала палітычная сітуацыя ў Беларусі. У канцы 2007 г. ініцыятыву паставіць камень у свае рукі ўзялі ўлады горада Гданьска – асабіста віцэ-прэзідэнт Мацей Лісіцкі. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь зрабіла шыльду, змест якой узгодніў са мной генеральны консул Міхал Аляксейчык. Амбасада была тут ні пры чым. Тадышні амбасадар РБ Павал Латушка невядома чаму тэрмінова перад адкрыццём каменя з'ехаў у Варшаву. Дарэчы, нават мастацкую праграму падрыхтавалі і выканалі "Капэла Гэданэнзіс" і акцёр з тэатра "Выбжэжэ" Кшыштаф Гордан.

Шкада, дарэчы, што ў скарочаным варыянце артыкула спадара Адамковіча, змешчаным у бюлетэні "Беларусы ў свеце", быў апушчаны той факт, што Баляслаў Лапыр быў перадусім у міжваенны перыяд павятовым аграномам у Глыбокім і адначасова беларускім дзеячам, які пасля арышту НКВД у 1945 г. у Ваўкавыску невядома дзе апынуўся і калі загінуў.

На заканчэнне маіх заўваг хачу сказаць, што Міхась Куптэль паслаў сваю карэспандэнцыю пра нашых гасцей з Вільні ў "Ніву" (№ 30, 22.07.2012 г., с. 11). Дарэчы, чытаннем твораў Янкі Купалы мы заадно супольна адзначылі яго 130-ыя ўгодкі ад нараджэння і 70-ыя ўгодкі з дня смерці. Нашая сустрэча з беларусамі Вільні праходзіла ў Сопаце ў памяшканні Беларускага культурнага таварыства "Хатка". Так што мы не толькі беларусы Гданьска, але і Сопата, і Прушча Гданьскага, і Гдыні. І кожнага, хто робіць нешта добрае на карысць Беларусі, будзем вітаць у Трыгарадзе і паказваць беларускія сляды на Памор'і ў меру сваіх магчымасцяў і часу.

*Лена Глагоўская*

## У МАХНАТЫМ ЗАСПЯВАЛІ "ЖАВАРОНКІ"

На фальклорным небасхіле беларускага Падляшша з'явіўся новы калектыў. І хаця яго дзейнасць пачалася больш за год таму, але назву ён атрымаў толькі цяпер. У Махнатым, што ў гміне Гайнаўка, адбыўся хрост спеўнага калектыву.

Малады гурт назвалі "Жаваронкі". Як зазначае яго кіраўнік Аляксей Герасімюк, назва невыпадковая: "Сваю дзейнасць мы пачалі ўвесну. А вясну пачынаюць жаваронкі. Таму мы так і назваліся. Хацелася, каб нейкі мастацкі калектыў паўстаў і ў Махнатым. У нас некалі быў калектыў. У 60-х гадах. Нядаўна я пайшоў на пенсію і падумаў, што варта тую працу аднавіць".

Калектыў з Махнатага ўжо знаёмы жыхарам Гайнаўскага павету. Увесну спевакі па запрашэнні еўрадэпутата Яраслава Каліноўскага наведаюць Брусель, дзе супольна з калектывам "Чыжавяне" будуць прадстаўляць музычную культуру беларусаў Падляшша.

*racyja.eu*

## АКЦЫІ ПАМЯЦІ РАСЦІСЛАВА ЛАПІЦКАГА



У многіх кутках Беларусі і за мяжой 1 верасня адбыліся акцыі ў памяць лідара моладзевай арганізацыі ў паваеннай Беларусі Расціслава Лапіцкага, які быў забіты ў 1950 годзе сталінскімі катамі. З ініцыятывай адзначыць гэты дзень выступіла "Беларуская Нацыянальная Памяць", яе кіраўнік Анатоль Міхнавец паведаміў, што акцыі памяці адбыліся і ў Польшчы: "Беларуская Нацыянальная Памяць" выступіла з такой ініцыятывай, каб у гэты дзень запаліць знічы, паходні, вогнішчы ў памяць Расціслава Лапіцкага. Адбыліся акцыі ў Варшаве, Гданьску, Беластоку, а таксама ў гарадах Беларусі".

У Варшаве ў дзень нараджэння Расціслава Лапіцкага пад адкрытым небам быў арганізаваны прагляд фільма "Як пошуг маланкі", у якім распавядаецца пра жыццё патрыёта.

Акрамя таго, удзельнікі сустрэчы запалілі знічы ў памяць пра яго каля помніка палякам, якія загінулі ў Варшаўскім паўстанні.

Нагадаем, што ў 1948–1949 гадах у Смаргонскім і Мядзельскім раёнах з навучэнскай моладзі Расціслаў Лапіцкі стварыў антыкамуністычную падпольную арганізацыю, якая выдавала антысталінскія лістоўкі. Пасля раскрыцця арганізацыі яе сябры, у тым ліку і непаўналетнія, сталі вязнямі ГУЛАГу, а Расціслава Лапіцкага расстралялі. Падпісаць просьбу аб памілаванні ён адмовіўся.

*racyja.eu*

# ЛІПЕНЬСКІЯ БУДНІ Ў ТБК ЛІТВЫ

На чарговую імпрэзу 28 ліпеня сябры ТБК запрасілі гасцей: старшыню Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ Зянона Пазняка і намесніка КХП-БНФ Сяргея Папкова, сяброў з мінскага царкоўнага брацтва Трох віленскіх пакутнікаў на чале са спадаром Анатолем Астапенкам, а таксама добрых сваіх сяброў – украінскі сямейны хор “Світлиця”.

Імпрэза была прысвечаная 130-м угодкам ад дня народзінаў Янкі Купалы і 15-ай гадавіне ад дня смерці Лявона Луцкевіча.

Пра жыццё, творчасць і грамадскую дзейнасць Янкі Купалы з прамовай выступіў Васіль Акуневіч. Спадчына песняра багатая і на ўласныя яго творы, і на пераклады. Ён перакладаў з украінскай, польскай, рускай, французскай і нямецкай моваў. Творы Купалы перакладзеныя на 117 моваў свету.

Янка Купала шмат думаў, разважаў пра абяздоленасць беларусаў, пра прычыны гэтага становішча. У сваіх творах заклікаў землякоў змагацца за лепшую долю і незалежнасць. Для царскага, а пазней – савецкага ўрада тое было непрымальным. Таму творы Купалы забараняліся, а выданні канфіскоўваліся. Аўтар і выдавецтвы прыцягваліся да адказнасці, падвяргаліся рэпрэсіям. Гэта прывяло да спробы самагубства паэта ў 1930 годзе, аднак ён застаўся жывы. Лежачы ў шпіталі, канчаткова зломлены, ён падпісвае г.зв. “Адкрыты ліст Я. Купалы” з адрачэннем ад нацыянальнай ідэі. Творчасць Купалы 30-х гадоў складаецца з прасавецкіх вершаў і артыкулаў, пазбаўленых мастацкае вартасці, апроч цыклу вершаў 1935 г., створаных у вёсцы Ляўкі (“Сонцу”, “Лён”, “Дарогі” і іншыя).

4 чэрвеня 1942 г. Купала быў раптоўна выкліканы з Татарстана, дзе быў у эвакуацыі, у Маскву тэлеграмай ад старшыні Саўнаркама БССР. 28 чэрвеня ў Маскве Купала трагічна загінуў, упаўшы з лесвіцы ў гатэлі “Масква”. Паэта пахавалі ў Маскве на Ваганькаўскіх могілках, а праз 20 гадоў яго прах перавезлі ў Беларусь. Цяпер магіла Янкі Купалы знаходзіцца на Вайсковых могілках у Мінску, побач з магілай Якуба Коласа. Тамсама знаходзіцца і магіла маці паэта Бянігны Іванаўны, якая памерла ў акупаваным Мінску, перажыўшы сына на два дні.

Удзячны беларускі народ ушанаваў Купалу. Дзейнічаюць “Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы”, “Дзяржаўная прэмія імя Я. Купалы”, “Міжнародны фонд Я. Купалы”, “Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы”, “Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы” і інш. У Вільні яго імем названая вуліца, на доме рэдакцыі “Нашай Нівы” намаганнямі ТБК замацаваная шыльда.

Завершыла тэму Янкі Купалы на імпрэзе спадарыня Таццяна Райнене. Яна дэкламавала два паэтычныя творы. Удзельнікі імпрэзы шчырымі воплескамі выказалі падзяку народнаму паэту і спадарыні Таццяне.

З успамінамі пра Лявона Луцкевіча, сына прэм′ер-міністра БНР Антона Луцкевіча, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, педагога, мемуарыста, заснавальніка нашага Таварыства беларускай культуры ў Літве выступіў Андрусь Старавойтаў. Спадар Андрусь, цяпер рэдактар і вядоўца тыднёвай беларускамоўнай перадачы на дзяржаўным радыё Літвы, упершыню пачуў голас дзядзькі Лявона па радыё, калі жыў у Маладзечне. У тых перадачах Лявона Луцкевіча захапляла яго валоданне беларускаю мовою, клопат пра беларускую спадчыну ў Вільні. Тады Андрусь вырашыў абавязкова пазнаёміцца з Лявонам, што і адбылося ў Вільні. Добрыя стасункі паміж імі доўжыліся да апошніх дзён жыцця Лявона.

Лявон, як і яго бацька, зведаў перaслед і рэпрэсіі з боку саветаў. За беларускую дзейнасць быў асуджаны, адбываў пакаранне на Калыме, пасля хрушчоўскай адлігі вярнуўся ў Вільню. Лявон Луцкевіч быў адным з першых, хто пачаў адраджаць беларускае культурнае жыццё напрыканцы 1980-х. Па яго ініцыятыве і актыўнымі намаганнямі, разам з іншымі беларусамі-віленчукамі, была заснаваная беларуская суполка ТБК, беларускамоўная школа, беларуская кафедра ва ўніверсітэце, беларускамоўныя перадачы на літоўскім тэлебачанні і радыё. Сваю любоў да беларускай Вільні Лявон Луцкевіч выказаў кнігай “Вандроўкі па Вільні”. Выдадзеная ТБК, яна пабачыла свет ужо пасля смерці аўтара. Кніга стала найкаштоўнейшым экскурсаводам па Вільні. Беларусы ганарацца сваім патрыётам, годным прадаўжальнікам справы Івана і Антона Луцкевічаў.



*Украінскі хор “Світлиця”*

Завяршылі імпрэзу сябры-ўкраінцы – сям'я Рамана і Аксаны з дачкою Ірай і мамай Аксаны – Ірынай Ільніцкай. Украінскія народныя песні яны спявалі на знак салідарнасці з беларусамі, якія дбаюць пра беларускую мову, нацыянальную дзяржаву. Пасля імпрэзы прысутныя не разышліся, а вялі дыскусію пра мову, пра нацыянальную свядомасць народаў-суседзяў – беларусаў і ўкраінцаў. Было цікава і карысна.

На просьбу прысутных на імпрэзе з прамоваю выступіў Зянон Пазняк. Спадар Зянон падзяліўся сваёю заклапочанасцю нарастаючым уплывам Кітая ў Беларусі. Ён заўважыў, што з ласкі антыбеларускага рэжыму дзясяткі тысячаў кітайскіх жыхароў ужо пасяліліся на нашай зямлі, а плануецца яшчэ большы наплыў. Сусветная практыка паказвае: існуе пагроза таго, што гэтая тэрыторыя пры далейшым такім наплыве ў будучым зробіцца кітайскай.

Яшчэ спадар Зянон прэзентаваў удзельнікам імпрэзы дзве новыя свае кніжкі, надрукаваныя ў 2012 годзе. У суаўтарстве з Валерам Буйвалам падрыхтаваная і выдадзеная кніга “Абарона Курапатаў. Народны мемарыял”, дзе вядзецца пра змаганне за Курапаты і іх абарону. Другая кніга – “Добрая фатаграфія”. Гэта дапаможнік на беларускай мове для прафесіяналаў і аматараў фатаграфіі.

Працягваючы традыцыю, сябры ТБК зрабілі вандроўку па Віленшчыне. 29-га ліпеня мы наведалі Яшуны, Малыя Салечнікі, Вялікія Салечнікі, Дзевянішкі, Каменку, Тургелі, разваліны Паўлавай Рэспублікі, Рудаміна. За экскурсавода гэтым разам з намі быў навуковец, археолаг Зянон Пазняк. Ён звярнуў увагу ўдзельнікаў вандроўкі на неабходнасць весці навуковае даследаванне беларускай гістарычнай спадчыны тут, у краі. Звяртаючыся да нас, ён прапанаваў маладым сябрам Таварыства ўзяцца за гэтую важную для Беларусі справу.

Нам не выпадае чакаць, калі гэтым зоймуцца дзяржаўныя ўстановы РБ. Пакуль на Бацькаўшчыне не адбудзецца палітычных, нацыянальна-дэмакратычных пераменаў, клапаціцца пра яе нацыянальныя інтарэсы павінна грамадства.

*Паводле Васіля Акуневіча*

Поўную версію артыкула, у тым ліку падрабязнасці вандроўкі па Віленшчыне, чытайце на нашым сайце *zbsb.org*

# БЕЛАРУСЫ ТОМСКА Ў ВІЦЕБСКУ

Кожны дзень, прачынаючыся раніцай, я думаю аб маёй Радзіме – сінявокай Беларусі. Мне хочацца верыць у шчаслівую будучыню ўсіх родных і блізкіх мне людзей, і тое, што я ўбачыла на роднай старонцы, дае мне ўпэўненнасць, што мая краіна будзе жыць добра і багата…

Так здарылыся, што я апынулася далёка ад роднага краю. Прайшло ўжо шмат гадоў, але нітка часу не змагла перарваць сувязь і блізкасць пачуццяў да роднай зямлі.

Зусім нядаўна пры падтрымцы адміністрацыі Томска мне пашчасціла паўдзельнічаць у мерапрыемствах "Славянскага базару" ў Віцебску, ды не адной, а з групай членаў нацыянальна-культурнай аўтаноміі горада Томска. Сярод нашай дэлегацыі асноўную частку складалі маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія маюць беларускія карані, альбо тыя, хто цікавіцца беларускай культурай і гісторыяй. У Віцебску мы спявалі беларускія песні. Наш дружны гурт хацеў не толькі шмат што пабачыць, але і паказаць нашу творчасць, тым болей, што да прыезду на фестываль Томская вобласць мела гонар бачыць нашыя справы на працягу ўсяго года. Гучалі песні, праводзіліся абрадавыя святы, канферэнцыі, майстар-класы, конкурсы і фестывалі, выставы беларускіх мастакоў і народных умельцаў Томскай зямлі, беларуская хатка сустракала шкаляроў. У шэрагу мерапрыемстваў бралі ўдзел дзеці, студэнты; зацікавіліся нашымі справамі і вучоныя вышэйшых адукацыйных установаў вобласці, наладзілася супрацоўніцтва з бібліятэчнымі ўстановамі, – шмат цікавага было. А наш удзел у гарадскім карнавале быў адзначаны ўладай горада асабліва. Вялікае бела-блакітнае воблака беларусаў у нацыянальных строях вабіла тамічоў, здзіўляла сваёй прыгажосцю і яднаннем. І ведаеце, пакуль мы ішлі горадам, да нас далучалася ўсё болей і болей людзей, якія з гонарам гаварылі, што яны таксама беларусы. Кожная сустрэча сябраў нашай суполкі з новымі людзьмі абавязкова пачынаецца са знаёмства: кожны хоча расказаць пра сябе, пра свае гістарычныя карані, пра пошукі родных людзей. Не ўсе гісторыі радасныя – многа і сумнага… Хтосьці з нашых бацькоў прыехаў у далёкую Сібір па сваёй волі, а хтосьці і не; хтосьці з нас паспеў спытаць іх, як іх закінула так далёка ад родных мясцін, а хтосьці хоча адшукаць радзіму іх продкаў.



*Выступ на "Славянскім базары"*

Якімі былі некалькі дзён на роднай зямлі. Першы дзень – сустрэча на віцебскім чыгуначным вакзале: крышку халодна, асабліва пасля нашай спякоты. У нас +34, гарачь лясы, і цяжка дыхаць у гарадах – такой спякоты не было даўно, а тут… як лёгка дыхаецца! І так чыста і прыгожа…

Нас сустракала цудоўная Алена Змітраўна Тагулёва, навуковы супрацоўнік, чалавек, які ведае гісторыю Беларусі і апавядае пра яе, як пра сваё роднае дзіця, – спадарыню Алену можна было слухаць і слухаць… Для мяне як кіраўніка нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў гэта была вялікая знаходка, таму што, асабліва для маладых удзельнікаў дэлегацыі, было вельмі важна зразумець, што гэта за краіна, дзе калісьці жылі іх продкі. Спадарыня Алена змагла за ўвесь час нашых сустрэч расказаць шмат чаго па гісторыі роднага краю – захапляльна, цікава, прафесійна. Тое, што мы пабачылі, захоўваецца на Радзіме з вялікай любоўю, і гэта радуе.

Само свята чаравала сваім убранствам, шырынёй прадстаўлення розных рамёстваў, а мастакі здзіўлялі. Праўду кажуць: лепей адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць! Мы наведалі мясціны, дзе жыў Напалеон, мясціны пахавання беларускіх вайскоўцаў, цэрквы і саборы, музей Марка Шагала, мясціны, дзе жыў Рэпін. А ў Полацку – месца геаграфічнага цэнтру Еўропы, помнік Францыску Скарыну, Сафійскі сабор і манастыр, у якім жыла Ефрасіння Полацкая. Было прыемна разумець, што ўсё беражліва захоўваецца і абараняецца ад знішчэння. Сапраўды, няма гісторыі – няма народу. Усведамленне таго, што на Радзіме ганарацца сваёй гісторыяй і захоўваюць яе, выклікала захапленне і жаданне вяртацца яшчэ і яшчэ раз у гэтыя цудоўныя мясціны. Шчырыя дзякуй Алене Змітраўне Тагулёвай і супрацоўнікам турыстычнай фірмы "Ілва": сваёй шчырасцю, жаданнем данесці да нас мноства цудоўнага і цікавага аб Беларусі яны змаглі зрабіць вельмі важнае – дадаць нам яшчэ больш імпэту, каб несці культуру і гісторыю беларускага народа на нашу сібірскую зямлю.

Калі мы вярнуліся ў Томск, хлопцы і дзяўчаты казалі, што ў іх з'явілася натхненне і жаданне працаваць з большай цікавасцю і задавальненнем. З'явілася мара аб новай сустрэчы з гістарычнай Радзімай – а гэта новыя планы і творчыя задумы… Хай жыве і квітнее Беларусь! Шчасця ёй і дабрабыту!

*Любоў Адаскевіч*

# У ЛОДЗІ ЎШАНУЮЦЬ ПАМЯЦЬ ДЗЕЯЧА БНР ЯЗЭПА ФАРБОТКІ

Беларуская Нацыянальная Памяць ушануе памяць беларускага культурнага, грамадскага і палітычнага дзеяча, дыпламата БНР - Язэпа Фарботкі, магілу якога нядаўна адшукалі.

Старшыня БНП Анатоль Міхнавец кажа: "Мы нядаўна адшукалі ў Лодзі магілу Язэпа Фарботкі, гэта дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, яе адшукаў адзін наш хлопец. Мы плануем на наступным тыдні туды паехаць, каб аддаць даніну павагі і ўшанаваць пахаванне".

Беларускі нацыянальны дзеяч Язэп Фарботка нарадзіўся ў 1893 годзе ў мястэчку Налібокі колішняга Ашмянскага павета. Дэбютаваў з вершамі ў "Нашай Ніве" ў 1912 годзе, пераклаў урывак з "Пана Тадэвуша" на беларускую мову. У 1918 годзе быў сябрам дэлегацыі БНР у Кіеве, у выніку дзейнасці якой Украінская Народная Рэспубліка прызнала незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля вайны арыштаваны і сасланы ў Данбас. Напрыканцы 1945 пасяліўся ў Лодзі, дзе памёр у 1956 годзе.

*racyja.eu*

# АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ
# 1930 – 2012



На 83-м годзе жыцця памёр драматург і сцэнарыст Алесь Петрашкевіч, аўтар п’есы “Напісанае застаецца” і суаўтар сцэнара серыяла “Час выбраў нас”. Развітанне прайшло ў зале цырымоній лечкамісіі 26 жніўня. Алеся Петрашкевіча пахавалі побач з жонкай на Чыжоўскіх могілках Мінска.

Алесь Петрашкевіч нарадзіўся 1 мая 1930 г. у вёсцы Пярэвалачня Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Аўтар сцэнароў мастацкіх і дакументальных фільмаў. Кандыдат гістарычных навук (1967), заслужаны работнік культуры Беларусі (1975), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976) за ўдзел у падрыхтоўцы і выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Сябра ТБМ, сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” з 2001 года.

У 2008 годзе да 90-годдзя БНР Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” выдала яго п’есу “Приласкать и уничтожить”, дзе аўтар закранае гісторыю станаўлення нашай дзяржаўнасці і расказвае пра тое, як стваралася БНР.

Сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, пісьменніца, літаратуразнаўца і крытык Лідзія Савік адзначае вялікі ўнёсак Алеся Петрашкевіча ў развіццё беларускай культуры і даследаванне гісторыі:

– Алесь Петрашкевіч для беларускай літаратуры, гісторыі, культуры – найталенавіцейшая асоба. Ён пакінуў настолькі глыбокі і значны след у культуры, што, я думаю, яго імя застанецца ў памяці нашчадкаў назаўсёды, пакуль будзе жыць беларуская мова, пакуль будзе жыць беларускі народ.

Нельга не згадаць энцыклапедычную дзейнасць Алеся Петрашкевіча. Ён шмат працаваў над Беларускай энцыклапедыяй, заснаваў серыю “Памяць” – больш за 100 кніг выйшла па ўсіх раёнах Беларусі. Там можна знайсці звесткі і пра рэпрэсаваных, і пра загінулых у часе Вялікай Айчыннай вайны жыхароў гэтых раёнаў. Алесь Петрашкевіч распрацаваў методыку гэтага выдання, ён быў яго ініцыятарам і натхняльнікам. Гэта неацэнны ўнёсак у нашу культуру.

Алесь Петрашкевіч быў таксама і выдатным публіцыстам, яго публіцыстыка была вельмі вострай, сучаснай нават і ў нашы дні.

Ён заўсёды з вялікім болем пісаў пра нашу гісторыю. Гістарычныя драмы – тое, чым ён адметны. Алесь Петрашкевіч – адзіны, хто стварыў сапраўдны драматургічны летапіс беларускай гісторыі. Ён адкрыў шмат невядомых старонак у нашай гісторыі. Выдатныя яго кнігі “Воля на крыжы”, “Здрапежаная зямля”, дзе сабраныя гістарычныя драмы пра падзеі ад часоў Рагвалода і Рагнеды да савецкіх часоў. Вартыя ўвагі п’есы, прысвечаныя не толькі гісторыі, але і сучаснасці, напрыклад, “Інтэлігенты”.

Цяжка пералічыць усе дасягненні Алеся Петрашкевіча, грамадзянскі подзвіг яго вельмі значны. Ды і проста як чалавек ён таксама быў цудоўны: выдатны сем’янін, сумленны грамадзянін. Шкада, што цяпер яго няма з намі. Усё ж я думаю, што яго імя, яго творчасць і справы назаўсёды застануцца ў памяці нашчадкаў.

МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Алеся Петрашкевіча, а таксама ўсім, хто ведаў і шанаваў яго.

Мір вечны яго душы!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2012 ГОДА

3 верасня – 85 гадоў таму ў в. Канюхі (цяпер Капыльскі р-н) нарадзіўся Алесь Адамовіч (1927–1994), пісьменнік, грамадскі дзеяч.

4 верасня – 20 гадоў таму ў Таронта памёр Сяргей Хмара (сапр. Сіняк; 1905-1992), пісьменнік, паэт, журналіст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

5 верасня – 95 гадоў таму ў в. Гарадэчна (цяпер Навагрудскі р-н) нарадзіўся Язэп Сажыч (1917–2007), дзеяч эміграцыі ў ЗША, старшыня рады БНР (1982–1997).

7 верасня – 180 гадоў таму ў маёнтку Шаўры (цяпер Воранаўскі р-н) нарадзіўся Людвік Нарбут (1832 –1863), адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання 1863–1864 гг.

15 верасня – 150 гадоў таму памёр Уладзіслаў Сыракомля (сапр. Людвік Кандратовіч; 1823–1862), беларускі і польскі паэт-гуманіст, пісьменнік, публіцыст. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

17 верасня – 100 гадоў таму ў в. Пількаўшчына (цяпер Мядзельскі р-н) нарадзіўся Максім Танк (сапр. Яўген Скурко; 1912–1995), паэт, грамадскі дзеяч, акадэмік.

17 верасня – 90 гадоў таму ў в. Сіняўская Слабада (цяпер Карэліцкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Калеснік (1922–1994), літаратуразнавец, крытык, празаік.

18 верасня – 20 гадоў таму памёр Ян Скрыган (1905–1992), пісьменнік, перакладчык, вязень ГУЛАГу. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

22 верасня – 95 гадоў таму памёр Ігнат Буйніцкі (1861–1917), акцёр, рэжысёр, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатра.

24 верасня – 110 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Аляксандр Махноўскі (г. Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія), педагог, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

28 верасня – 75 гадоў таму ў Мінску ці пад Мінскам расстраляны Уладзіслаў Галубок (1882–1937), пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

29 верасня – 30 гадоў таму, у 1982-м, у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША) памёр Дзмітрый Сямёнаў, літаратар, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

30 верасня – 120 гадоў таму ў мяст. Мяндзы-баж (цяпер Лятычаўскі р-н Жытомірскай вобл., Украіна) нарадзілася Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава; 1892-1991), пісьменніца, грамадска-культурны дзеяч.

**Беларусы ў свеце**
№8(124), жнівень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не
супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і
вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27